Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА - РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 4 (38) | Вільня, 15 лютага 1939 г. | Год IV

## Павадырства нацыі.

У вадным з папярэдніх нумароў „Бел. Фр.“ мы адзначылі вялікую ролю інтэлігенцыі ў жыцьці народу - нацыі. Мы тады сказалі, што інтэлігенцыя рэпрэзэнтуе народ навонкі перад іншымі народамі, што яна ёсьць павадыром свайго народу; апроч гэтага інтэлігенцыя ў нармальных варунках жыцьця паказвае народу лепшыя палітычныя і грамадзкія шляхі і ўкладае пляны дзейнасьці. Дзеля гэтага інтэлігенцыю часта называюць мазгамі народнага арганізму. Трэба прызнаць, што без інтэлігенцыі народ ня мае ані рэпрэзэнтацыі, ані кіраўніцтва, ані думаючага цэнтру — словам, ня мае павадырства. Да інтэлігенцыі мы залічаем усе думаючыя адзінкі, у горадзе і на вёсцы, якія разумеюць палажэньне народу, маюць інтэлектуальныя і моральныя вартасьці і прыймаюць удзел у грамадзкім жыцьці.

Ролю павадырства інтэлігенцыя спаўняе розна, але ніколі ўрозсып, а найчасьцей злучаная ў палітычныя арганізацыі. Інтэлігенцыя разсыпаная, так як і разсыпаны народ, ня мае вялікшага значэньня. Дзеля гэтага інтэлігенцыя, г. зн., думаючыя і грамадзкія адзінкі, лучацца ў палітычныя арганізацыі або *партыі*. Некаторыя людзі баяцца самога слова „партыя“ і часта ўважаюць яе за прычыну ўсялякага зла. Аднак такое судженьне ёсьць неабаснаванае і нават несправядлівае, бо з гісторыі і з сучаснага жыцьця ведаем, што партыі ў жыцьці кожнага арганізаванага народу заўсёды адыгрывалі і адыгрываюць вялікую ролю. Болей трэба сказаць: нармальнае палітычнае жыцьцё народу бяз партыяў існаваць і разьвівацца ня можа, раз, — што народ можа мець не адны, але розныя палітычныя і грамадзкія мэты, а другое — што кожны думаючы грамадзянін гэтыя мэты розна разумее. Прыгэтым на працягу гісторыі палітычныя і грамадзкія мэты ў народаў часта мяняліся.

Людзі, якія аднолькава разумеюць гэтыя мэты, збліжаюцца паміж сабою і твораць адну арганізацыю або партыю. (Слова „партыя“ выводзіцца ад лацінскага слова „pars“, што значыць „часьць“). Дык партыя ў палітычным і грамадзкім значэньні — гэта зьвяз часьці грамадзян, якіх лучаць: 1) аднолькавыя пагляды або супольныя інтарэсы (адны думкі); 2) ахвота змаганьня за гэтыя пагляды або інтарэсы (адна воля); 3) праводжаньне гэтага змаганьня арганізаваным спосабам (адно дзеяньне). На гэтых падставах творыцца партыя. Партыі існуюць ня толькі ў вадным народзе або дзяржаве, але часам абыймаюць людзей, жывучых у розных народах і ў розных дзяржавах — такія партыі завуцца міжнароднымі або інтэрнацыянальнымі.

Партыі адыгрываюць вялікую ролю ў жыцьці кожнага народу — і таго, каторы мае сваю дзяржаву, і таго, каторы ня мае. Каліж мы паставім пытаньне, у жыцьці якога народу партыі адыгрываюць большую ролю, дзяржаўнага, ці бездзяржаўнага, дык трэба прызнаць, што ў жыцьці бездзяржаўнага народу. Бо ў дзяржаўных народаў павадырства часта спаўняе ўрад, а ў бездзяржаўных — партыі або каліцыя партыяў. *Народ, які ня мае сваей дзяржавы, ня можа стварыць іншага павадырства, як толькі з палітычных партыяў або групаў.*

З гэтага відаць, што партыі ў жыцьці кожнага народу — гэта зьявішчы зусім нармальныя і зразумелыя. Некаторыя дзяржаўныя народы зносяць цяпер партыі, уводзячы на іх месца адну партыю, урадаву, зложаную з прыхільнікаў ураду. Але такі парадак ёсьць вельмі непрактычны, а нават шкодны для народу (дзяржавы), бо памяншае і ўбожыць грамадзкае жыцьцё, спыняе ініцыятыву, заганяе ў падзямельле інакш думаючых грамадзян і гэтым самым „вулканізуе“ дзяржаву. Але і партыі ў сваей дзейнасьці павінны помніць, што яны ня ўвесь народ, а толькі *часьць* народу і дзеля гэтага на першым месцы павінны ставіць не дабро партыі і не дабро сваіх сяброў, але дабро ўсяго народу. Калі дзеецца наадварот, тады ствараюцца вельмі нездаровыя адносіны ў народным жыцьці і паўстае ў народзе вострая рэакцыя процію партыяў.

Партыі карысны яшчэ і з тэй прычыны, што пашыраюць у народзе ўсьведамленьне аб публічных справах, даюць гэтым справам усебаковае асьветленьне, вырабляюць і паглыбляюць пагляды адзінак, бароняць інтарэсы паасобных клясаў або групаў, узгадоўваюць барацьбітоў і павадыроў народу. Ясна, што толькі тыя партыі спаўняюць гэтыя заданьні, якія маюць людзей практычных, разумных, знаючых сьвет і жыцьцё і аддадных усей душой свайму народу.

Партыі адыгрывалі вялікую ролю ў гісторыі кожнага народу. Усім ведама, што гісторыя народаў, іх развой і занепад, ня ёсьць прыпадковым бегам падзеяў, але ёсьць зьвязанай з людзьмі, якія твораць гэту гісторыю. У кожным народзе ёсьць група людзей, якая стаіць на чале гэтага народу, кіруе ім і гэтым самым бярэ адказнасьць за яго долю. *І гэта ёсьць павадырства народу - нацыі.* Калі павадырства стаіць на вышыні свайго заданьня і добра спаўняе сваю ролю, г. зн. ар'ентуецца ў палажэньні, укладае разумныя пляны і ўмела іх рэалізуе — тады вядзе свой народ да лепшай долі. Калі-ж павадырства не ар'ентуецца ў справах або робіць памылкі — тады можа прывясьці народ да катастрофы.

Некаторыя прыраўноўваюць народ да плывучага па моры карабля, а павадырства да экіпажу, які кіруе караблём. Калі экіпаж знаецца на мораплаваньні, знае дарогі і падводныя скалы, можа шчасьліва давясьці карабель да прыстані. Калі-ж дзеецца наадварот, можа спаткаць той карабель катастрофа. Гэтае самае дзеецца і з народам. Гісторыя многіх народаў, а ў тым ліку і беларускага, сьведчыць аб гэтым. Нашае павадырства, баяры і князі, выбраўшы ў даўнейшых стагодзьдзях фальшывыя шляхі і падзяліўшыся на ўсходнюю (расейскую) і заходнюю (польскую) ар'ентацыю, загубілі на цэлыя стагодзьдзі беларускі народ, яго дзяржаўнасьць і культуру.

Значыць, ад павадырства залежыць добрая або благая доля народу. Дзеля гэтага само павадырства павінна здабываць для сябе ўсе патрэбныя інтэлектуальныя і моральныя даныя, каб ня ўзьвесьці на блудныя дарогі свайго народу. Апроч гэтага павадырства павінна: 1) асьвятляць перад народам палажэньне, у якім ён знаходзіцца, 2) паказваць народу мэты, да якіх ён павінен ісьці і шляхі да гэтых мэтаў, 3) перасьцерагаць народ перад рознымі небясьпекамі і бараніць ягоных інтарэсаў, 4) мець сувязь з народам. Толькі такое павадырства, якое спаўняе гэтыя заданьні, ёсьць *добрым* павадырствам народу.

У нашых беларускіх варунках яшчэ пажадана, каб павадырства, якое жыве і працуе ў горадзе, мела сталую і моцную сувязь з павадырствам, якое жыве і працуе на вёсцы — і наадварот. Паміж імі мусяць быць адны думкі, адна воля і адно дзеяньне.

——

## ПАСЬЛЯ ПРАМОВЫ ГІТЛЕРА.

Трэба прызнаць, што на прамову Гітлера, якую ён сказаў 30.I. пры адчыненьні Райхстагу (сойму), чакаў увесь палітычны сьвет з вялікім напружаньнем. У часе прамовы хто толькі знаў нямецкую мову і меў магчымасьць паслухаць яе праз радыё, настаўляў апарат на Бэрлін. Выглядала, што ад гэтай прамовы залежыць будучыня ня толькі Эўропы, але і ўсяго сьвету. Просты даўнейшы работнік, а цяпер дыктатар Нямеччыны, здавалася загіпнатызаваў увесь сьвет... Найболей чакалі разьвязкі пытаньня: куды пойдзе Нямеччына, і куды Гітлер кіне ўсю нямецкую сілу, на Ўсход, ці на Захад? Ці пойдзе разьбіваць Саветы і тварыць там паасобныя нацыянальныя дзяржавы, ці пойдзе здабываць калёніі, без каторых Нямеччына ня мае патрэбнай для свайго промыслу сыравіны? Прыгэтым усе казалі, што Нямеччына мусіць куды - колечы ісьці, раз — што ў яе пасьля далучэньня Аўстрыі і Судэтаў назьбіралася многа дынамікі і ахвоты да новых здабычаў, а другое — што яна душыцца на сваей тэрыторыі і мусіць здабыць для сябе новыя прасторы. Аднак тыя, што спадзяваліся ў прамове Гітлера вялікіх сэнсацыяў, моцна расчараваліся, бо прамова ня мела ніякіх дэцыдуючых і грозных мамэнтаў.

Апроч двух найважнейшых пунктаў, аб каторых мы ўжо ўспаміналі ў папярэднім нумары „Б. Фр.“, іменна: 1) жаданьне звароту даўнейшых нямецкіх калёніяў, якія былі адабраны пасьля Вялікай вайны і 2) дэклярацыя аб гатоўнасьці

Нямеччыны стаць па старане Італіі ў кожным яе ваенным канфлікце, у прамове Гітлера былі яшчэ цікавыя мамэнты. Першым такім мамэнтам было сьцьверджаньне, што цяперашні падзел сьвету ёсьць несправядлівым, бо адны нахваталі для сябе многа зямлі і багацьцяў, а другія нічога, прыгэтым Гітлер заявіў, што Бог стварыў сьвет не для аднаго або двух народаў, але для ўсіх і што кожны народ мае права забясьпечыць сабе на сьвеце права да жыцьця; другім мамэнтам, які потым выклікаў у прэсе вялікую дыскусію, была заява Гітлера, што „Нямеччына ёсьць шчасьлівая, што мае сяньня на захадзе, поўдні і поўначы ўспакоеныя граніцы". У гэтым сказе кідаецца ў вочы тое, што няма ў ім нічога аб успакоенай граніцы **на ўсходзе**. Тымчасам Нямецкае Інфармацыйнае Бюро, а за ім і Польская Тэлегр. Агенцыя (ПАТ) падалі, што быццам Гітлер сказаў ня толькі аб успакоеных граніцах на захадзе, поўдні і поўначы, але і на ўсходзе. Аднак скора выявілася, што Гітлер сапраўды нічога не гаварыў аб успакаеньні граніц на ўсходзе! Гэтае „адкрыцьцё" выклікала ў польскай прэсе цэлую буру і закід, што Гітлер польска-нямецкай граніцы не прызнае за „успакоеную".

Важным у прамове Гітлера ёсьць такжа тое, што павадыр Нямеччыны ня высунуў ніякіх тэрыторыяльных прэтэнсіяў у Эўропе і нічога не сказаў процiў Саветаў. На гэты апошні мамэнт палітычныя кругі зьвярнулі асаблівую ўвагу, вяжучы яго з нямецка - савецкімі перагаворамі, якія адбываюцца ў Маскве, разумеючы гэта ў тым сэнсе, што сапраўды ня можа ён выступацьпроціў тэй дзяржавы, з якою вядуцца перагаворы... Тут Гітлер астаўся **верны** свайму правілу: калі ісьці на Ўсход, дык трэба гадзіцца на Захадзе, а калі ісьці на Захад, дык трэба гаварыць аб прыязьні на Ўсходзе...

Да студня сёлета Гітлер вёў гутаркі на Захадзе, падпісваючы з Англіяй і Францыяй дэклярацыі, што ўсе спрэчныя з імі справы будуць вырашацца мірным спосабам, выключаючым вайну. Баручы пад увагу гэтыя дэклярацыі, усе былі пэўны, што Нямеччына забясьпечваецца на Захадзе, каб мець вольныя рукі на Ўсходзе. Але ў студні разыйшліся чуткі, што Нямеччына забясьпечваецца на Ўсходзе, шукаючы паразуменьня з Польшчай і нават з Саветамі. Гэтыя весткі ў прамове Гітлера знайшлі сваё пацьверджаньне. Значыць, Нямеччына скіравалася на Захад і вайна, якая мелася пачацца на вясну сёлета, адложана на неазначаны час.

Якія-ж прычыны маглі выклікаць такую радыкальную зьмену кірунку нямецкай палітыкі?

На наш пагляд прычыны гэтыя крыюцца між іншым у кітайскіх і гішпанскіх падзеях. У Кітаі „ўгразла" нямецкая саюзьніца, Японія, і ня можа падаць помачы Нямеччыне ў яе паходзе процiў Саветаў; а ведама, што Ням. адна, без Японіі, з Саветамі ваяваць ня будзе. Гэта адна прычына, а другая — што Муссоліні хоча выкарыстаць сваю **перамогу ў Гішпаніі**, чаго ён ня могбы зрабіць, калі-б Ням. упуталася ў ўсходнія справы. Відаць, што ў канцы сьнежня быў распрацаваны Нямеччынай і Італіяй нейкі плян супольнай акцыі на Захадзе. Бо прыглядзімся фактам. Дня 24.XII.38 было пачата наступленьне на Каталёнію; 5.I.39 Гітлер прыймае мін. Бэка ў Бэрхтэсгадэн і вядзе з ім вельмі прыязную гутарку; 25.I мін. Рыбэнтроп прыяжджае ў Варшаву, аднachасна разыходзяцца чуткі аб перагаворах Нямеччыны з сваім „сьмяротным" ворагам, Саветамі; 27.I узяцьце Барцэлёны і чуткі аб тым, што Муссоліні мае высунуць свае канкрэтныя жаданьні; 30.I Гітлер заяўляе, што ён гэтыя жаданьні паддзяржыць нават аружнай сілай; 7.II.38 Муссоліні заключае з Саветамі гандлёвы трактат, паводле якога савецкая нафта і сав. сыравіна мае памагаць фашыстоўскай Італіі ў яе вайне з дэмакратычнай Францыяй — словам, акцыя разыгрываецца як з нотаў, сувязь паміж гэтымі фактамі відавочная. Саветы, пачуўшыся спакойнымі на заходняй граніцы, пачалі ўжо трывожыць японцаў на Ўсходзе, пераходзячы па лёдзе Амур і нападаючы на японскія пагранічныя аддзелы. Чэхі пачалі ціснуць карпата - украінцаў і г. д.

Укр. „Нац. Політика" (5.II) пытаецца, што дастала Польшч ад Нямеччыны за абяцаную нэўтральнасьць? На гэтае пытаньне газэта адказвае, што Ням. за спакой на Усходзе гатова заплаціць нават вялікую цану. Але які торг зроблены і чыею цаною — няведама, кажа газэта. Магчыма, што Польшч будзе дапушчана да ўдзелу ў будучай міжнароднай канфэрэнцыі і дастане нешта з калёніяў; магчыма, што Ням. абяцалася ня высоўваць украінскай справы; магчыма, што будзе паддана рэвізіі становішча Ням. у справе Карп. Украіны; магчымы яшчэ іншыя камбінацыі. Пазнанскі „Przewodnik Katolicki" (29.I) піша, што мін. Бэк у гутарцы з Гітлерам заявіў, што Польшч ня сьцерпіць, калі-б з Прыкарпацкай Русі былі скіраваны атакі на цэласьць земляў Рэчыпаспалітай.

З усяго, што мы сказалі, можна зрабіць такія высновы:

1) Нямеччына скіравалася на Захад, дзе разам з Італіяй мае правадзіць нейкія, пакульшто ясна не азначаныя, каляніяльныя пляны.

2) Ініцыятыву на Захадзе бярэ ў свае рукі Італія, якая хоча пры помачы Нямеччыны здабыць для сябе новыя прасторы, так як Нямеччына пры помачы Італіі здабыла Аўстрыю і Судэты.

3) Вырашэньне ўсходніх праблемаў **практычна** Нямеччына адкладае на будучыню, займаючыся гэтымі праблемамі цяпер толькі **тэорэтычна**. Дзеля гэтага ня трэба спадзявацца на Ўсходзе ваеннай буры, аб якой столькі гаварылася.

Кажуць, што і на Захадзе ўсе спрэчныя справы будуць вырашаны мірным спосабам, адно толькі пры помачы страху і запужваньня. Кажуць яшчэ, што Муссоліні гэтак сама мірна разыграе ў гэтым годзе сваю ігру, як у мінулым годзе разыграў яе Гітлер, хоць і не абыдзецца без драматычных мамэнтаў. Словам год Муссоліняга мае быць таксама цікавы, як і год Гітлера.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Нутраная калянізацыя.** Ведамы польскі эканаміст і палітык, Раман Рыбарскі, у эндэцкім „Głosie Nar." (26.I.38) зьмясьціў артыкул „Kolonizacja wewnętrzna", у якім ёсьць шмат цікавых думак. Артыкул мае праграмовае значэньне і дзеля гэтага з ім варта пазнаёміцца.

Наўперад п. Рыбарскі сьцьвярджае, што на г. зв. „крэсах усходніх" для польшчыны зроблена мала. Дык паводле яго трэба працу ажывіць на ўсіх фронтах: і ў галіне польскага гандлю і промыслу, і ў галіне асадніцтва і калянізацыі і дзеля гэтага раіць перасяляць польскае насельніцтва з гусьцей населеных заходніх мясцовасьцяў Польшчы на ўсход, дзе насельніцтва радзейшае. Прыгэтым п. Рыбарскі адзначае, што даўней польская палітыка была занята рознымі фэдэрацыйнымі плянамі і дзеля гэтага не выконвала свайго заданьняў рашуча і консэквэнтна. Але цяпер, калі зьявілася новая небясьпека, калі ведамыя дзейнікі высоўваюць „прынцып этнаграфічны", які хочуць скіраваць процiў Польшчы, справа ўзмацненьня польскага элементу на ўсходніх землях стаецца пільнаю. Ня можна раскладаць гэтай акцыі на доўгія гады, але трэба адрабіць усе памылкі мінуўшчыны, апошніх колькінаццацёх гадоў — кажа п. Рыбарскі. Дзеля гэтага прапануе сьцягваць з заходніх правінцыяў Польшчы купцоў і рамесьнікаў, даючы ім прыватную і дзяржаўную помач, заахвочвае да далейшага праводжаньня асадніцтва і калянізацыі, забясьпячаючы іх матар'яльна і маральна і дбаючы аб польшчыну асаднікаў і каляністаў. Уканцы п. Р. кажа, што Польшч і даўней праводзіла асадніцтва і калянізацыю, але яны не прынясьлі спадзяваных рэзультатаў, дык у будучыне трэба высьцерагацца памылак.

На ўсё гэта адказваем: ці п. Рыбарскі цяпер можа гварантаваць, што польская палітыка, праводзячы асадніцтва і калянізацыю, ня робіць памылкі, так як і даўней? А можа якраз польская палітыка **і цяпер** робіць вялікія гістарычныя памылкі на Усходзе, памылкі, якія ня знойдуць апраўданьня ў будучых гісторыкаў. Бо калі былі памылкі даўней, дык могуць быць і цяпер!

**Наварылі кашы.** „Słowo" (7.II) у даўзёрным рэпартажы апісвае прошлагодніх выбары ў сойм, якія адбыліся ў ваколіцах Смургонь, Жоджішак, Дубатовак, Казянят. Выбары гэныя далі ня толькі змаганьне паміж трыма кандыдатамі ў паслы: Камінскім, Пэжаноўскім і Кенцам, але былі яшчэ і надужыцьці. Быццам выбарчая камісія ў часе галасаваньня выправіла народ з памяшканьня, адчыніла ўрну і над ёю чыніла розныя цуды... Быццам усё гэта дагледзілі праз вокны сьведкі, далі знаць паліцыі, пачаліся пратаколы, дазнаньні, цыганіна, потым прыйшлі ўжо, з нейкай іншай прычыны высяленьні — словам, заварылася цэлая каша. І тут спраўдзілася старая прыказка, што адны наварылі кашы, а другія мусяць яе зьесьці!

**Няма абавязку галасаваць.** Дня 23.I.39. Гарадзкі Суд у Влошчове (пад Кельцамі) разглядаў справу нейкага М. Енджэяка, каторы заклікаў да байкоту выбараў у сойм. Прадстаўнік паліцыі дамагаўся ўсудзе пакараньня Енджэяка, аднак Суд абвінавачанага апраўдаў, матывуючы тым, што галасаваньне ў сойм ня ёсьць абавязкам, але правам, а грамадзянін можа карыстаць з права голасу, або не карыстаць, (гл. „Głos Narodowy", 1.II.39).

Аб другім судовым выпадку паведамляе „Zielony Sztandar" (29.I.). У пазнаншчыне, перад Гарадзкім Судом у Востраве Вялікапольскім, адбывалася расправа процiў Ст. Чапеўскага, абвінавачанага за заклік да байкоту выбараў і зьнявагу ўлады. Чапеўскі меўся гаварыць прамову на публічным сабраньні ў справе выбараў, але сабраньне было разьвязана паліцыяй. Тады Чапеўскі сказаў, што „толькі найдурнейшыя цяляты галасуюць на сваіх разьнікоў". У гэтых славах паліцыя дагледзела заклік да байкоту выбараў і зьнявагу ўлады. Аднак Суд апраўдаў Чапеўскага, стаўшы на тым становішчы, што гэтыя словы ня былі заклікам да байкоту і ня мелі ў сабе зьнявагі для улады, бо „улада" не кандыдавала ў сойм, а толькі озонаўцы...

# Таемныя весьці і шэпты.

### (З ПОЛЬСКАЕ ПРЭСЫ).

Кракаўскі „Ilustr. Kurjer Codz." (10.I.38.) пад загалоўкам „Таемныя весьці і шэпты" зьмяшчае артыкул **„Па няўдачы „Вялікай Украіны" брэдні аб „Вялікай Беларусі"**, у якім піша аб спробах будаваньня муроў навакол Польшчы. Наўперад была паднята, кажа ІКЦ, у нямецкай, францускай і ангельскай прэсе ўкраінская справа, была створана Закарпацкая Русь, дзе розныя дзейнікі стараліся абрабляць свае інтарэсы. У справе будаваньня Вялікай Украіны дайшло да таго, што францускі вайсковы орган „La France Militaire" ў граніцах гэтай будучай Украіны памясьціў... Кракаў. Урад Валошына на Закарп. Русі пышніўся і надымаўся, спаўняючы пляны аслабленьня Польшчы ўкраінскай праблемай.

„Але ня толькі з поўдня пагражае Польшчы небясьпека, кажа далей ІКЦ, але аднachасна на поўначы, у суседніх прыбалтыцкіх краінах ходзяць дзіўныя чуткі, якія знаходзяць свой выслаў у газэтных артыкулах, у палітычных гутарках, а нават у брашурных публікацыях. Вось у Латвіі, а асабліва ў Латгаліі пасярод беларускага насельніцтва гаворыцца аб новай рэспубліцы, якая мае паўстаць з земляў, адараных ад Латвіі і якая мае называцца „Крывія". Гэта мае быць аўтаномная рэспубліка, створаная па прыкладу Закарпацкай Русі. Гаворыцца і пішацца, што гэтая беларуская рэспубліка была-б Пэймонтам, каторы пашыраўбы сфэру сваіх уплываў на землі літоўскія, польскія і савецкія і прывёўбы да стварэньня... вялікай беларускай рэспублікі.

„Аб гэтым усім вядзецца тымчасам дыскусія ў рамах канечнасьці адсунуць савецкую Расею ўглыб эўразійскага сухадолу. Гэтая рэспубліка была-б этапам нямецкага паходу ўздоўж Балтыкі на Маскву, таксама, як Закарпацкая Русь мае быць этапам гэтайсамай экспансіі ўздоўж карпацкага загібу на Кіеў.

„Але таксама, як у справе ўкраінскай, так і ў гэтай справе спатыкаем ня толькі нямецкія пляны. Бачыцца ў гэтых намерах акружваньня нас ад поўначы і ўсходу гэтыя самыя дзейнікі, якія паяўляліся і паяўляюцца пры аказіі паўставаньня ўкраінскай справы. Намеры ёсьць розныя. Ідзе аб тое, каб аслабіць і агранічыць нашае вялікадзяржаўніцкае становішча, а наўперад нашую ключавую пазыцыю ва ўсіх праблемах усходняе Эўропы. Разьвіваецца іррэдэнтыстычная беларуская акцыя ў Латгаліі, перакідаецца на Літву і ёсьць старэньні яе пашырадь на нашых землях. Ізноў, так як у справе ўкраінскай, зьяўляюцца розныя „знаўцы" беларускай справы і розныя беларускія „патрыёты". Гэта ёсьць пераважна расейскія эміграты, даўнейшыя палкоўнікі і генэралы, якія ў сучаснасьці мяняюць меней або болей даходныя становішчы кельнэраў і шофэраў у Парыжы ці ў Лёндане на становішчы ўплывовых палітычных агентаў. Пачынаюць сутыкацца рознаякія інтарэсы і пачынаюць лiцытавацца розныя ўплывы.

„Але ўспомненая намі Крывія, якая выводзіць этымолёгічна свой радавод ад Крывічоў, аднаго з беларускіх плямёнаў, гэта толькі адна нязначная пража акцыі, якая мае на мэце акружыць нас ад поўначы і ўсходу. Гэтае акружваньне ў розных плянах мае рознаякія формы.

„Нядаўна літоўская прэса пісала аб магчымасьці экспансіі на савецкую Расею праз тварэньне групаў паасобных дзяржаў і народаў. Пісалася ў асаблівасьці аб двух групах. Аднэй з іх мела быць група латыска-літоўская, а другой эстонска-фінляндзкая. Шырока дыскутаваліся плямённыя і гістарычныя сваяцтвы паміж Латвіяй і Літвой, пісалася аб гістарычных правах Літвы да вялікіх беларускіх абшараў, абдурвалася мрыяй (odurzano się wizją) стварэньня латыска-літоўскай дзяржавы, якая-б у свае граніцы ўцягнула беларускія землі, якія ляжаць па гэты і па той бок нашай ўсходняй граніцы.

„Мімаволі прыпамінаецца камінтэрнаўскі праект вырашэньня

# На беларускім ґрунце

### НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАВІННАСЬЦЬ.

Многа ёсьць патрэбаў, ад каторых залежыць дабро нашага народу, ягонае нацыянальнае адраджэньне і здабыцьцё сабе лепшага жыцьця. Ня ўсе гэтыя патрэбы могуць быць адразу споўнены, іншыя з іх вымагаюць адпаведных варункаў.

Але ёсьць і патрэбы найважнейшыя і адначасна найпрыступнейшыя, значыцца такія, каторыя кажны Беларус, на'т у найгоршых варунках жывучы, можа споўніць. Якія-ж гэта патрэбы? Каб народ разьвіваўся, вызваляўся, наўперад трэба, каб ён жыў. Дык забясьпечаньне быцьця нашаму народу будзе найпершаю найважнейшаю патрэбаю нашага народу і аднačасна найзвычайнейшай павіннасьцю ўсіх Беларусаў.

Што-ж трэба рабіць, каб забясьпечыць быцьцё нашаму народу? Каб адказаць на гэтае пытаньне, прыпомнім сабе, што народ — гэта вялізарная радзіма, вялікі род, дзе ўсе людзі — родзічы злучаны паходжаньнем ад адных супольных прэдкаў, злучаны адной крывёй і аднэй псыхікай-душой. Апошняе праяўляецца аднэй супольнай усім Беларусам моваю. Чым-жа ўдзержаваецца быцьцё сям'і або радзімы? А тым, што асобныя сябры радзімы рупяцца не адно аб самых сабе, але і аб цэлай радзіме. І чым рупнасьць, чым праца дзеля цэласьці радзімы большая, тым радзіма крапчэйшая, адпарнейшая на ўсялякія беды-няшчасьці. Вось-жа як рупнасьць-праца аб патрэбах цэлай радзімы ёсьць павіннасьцяй кажнага яе сябры, так такая праца-рупнасьць аб усім нашым народзе ёсьць павіннасьцяй кажнага Беларуса. **Кажны Беларус** павінен працаваць дзеля ўдзержаньня пры жыцьці і дзеля адраджэньня свайго беларускага народу. Працы такое мноства і яна такая разнаякая, што кажны знойдзе сабе найадпавяднейшую.

Але мала аднае працы. Кажная справа патрабуе яшчэ й граша. Народы гаспадарсьцьвеныя дастаюць патрэбныя сабе грошы дарогаю падаткаў, а негаспадарсьцьвеныя мусяць тое самае зрабіць дарогаю ахвярнасьці. Ня можна адмаўляцца тым, што цяжка плаціць падаткі гаспадарству і аднačасна даваць ахвяры на сваю нацыянальную справу, бо 1) калі ня будзем даваць ахвяраў, дык будзе яшчэ цяжэй, а 2) і гаспадарсьцьвеныя народы апрача падаткаў даюць ахвяры на свае нацыянальныя патрэбы і мы яшчэ іх ня толькі ня выперадзілі, але й не дагналі.

Праца й ахвярнасьць на народную справу ёсьць павіннасьцяй, якую трэба спаўняць заўсёды, на'т у найзвычайнейшую пару быцьця народу. А цяпер наш народ дзеля свайго нутранога палажэньня і дзеля палажэньня міжнароднага перажывае пару надзвычайную, каторую можна прыраўнаваць да вайны. Мы павінны ўсе йсьці на фронт адраджэньня свайго народу, дзе трэба ваяваць працай і ахвярнасьцяй. Хто гэтага ня робіць, той дэзэртыр (уцякач із фронту). Браты, парупмася самі спаўняць сваю павіннасьць і заклікайма сваіх суседзяў і знаёмых, няхай беларуская справа дужэе, а колькасьць дэзэртыраў з кажным днём менее. Беларусы заграніцай даюць нам у гэтым прыклад.

**Др. Я. Ст.**

### СУД НАД РЭДАКТАРАМ „БЕЛ. ФРОНТУ".

Дня 8.ІІ Віл. Гарадзкі Суд разглядаў справу рэдактара „Б. Фронту", мгра В. Гадлеўскага, абвінавачанага з арт. 170 К.К. за зьмяшчэньне ў н-ры 7 з дня 7 ліпня 1938 г. артыкулу „Загад зразаньня беларускіх брамаў", у каторым Віл. Гар. Старастава дагледзела пашыраньне фальшывых вестак, могучых выклікаць публічны неспакой. Разгляд гэтай справы з розных прычын быў два разы адкладаны, раз абвінавачаны прасіў выклікаць сьведак: дыр. А. Луцкевіча, др. Я. Станкевіча і К. Стомы, а другі раз — пракурор дамагаўся перакладу сканфіскаванага артыкулу на польскую мову. На гэты раз ня было ніякіх юрыдычных перашкодаў і Суд прыступіў да разгляду справы, але зараз пасьля ўступных пытаньняў пракурор зьвярнуўся да Суду з просьбай разглядаць справу пры зачыненых дзьвярох, матывуючы гэта дабром Дзяржавы. Суд прыхіляецца да прапазыцыі пракурора і публіка пакідае судовую залю. Дзеля таго, што справа разглядалася пры зачыненых дзьвярох, ня можам даць з працэсу справаздачы. Пасьля працэсу і перарыву быў абвешчаны прысуд, на падставе якога абвінавачаны быў апраўданы.

### ДАЛЕЙ ЗАБАРАНЯЕЦЦА.

Паводле атрыманых намі вестак стаўпецкае старастава і надалей не дае дазволу на беларускія прадстаўленьні. Гэтак не маглі адбыцца праектаваныя Белар. Дабрадзейным Таварыствам два спэктаклі ў Стоўпцах. Калі падсумуем папярэднія забароны з навейшымі, атрымаем „абразок" сучасных варункаў культурнай працы на беларускае вёсцы. „Роботнік" піша, што бел. справа перастала быць такою актыўнаю, бо бел. грамадзянства змучылася... Нам здаецца, што прычына ляжыць ня ў змучаньні бел. грамадзянства. На падставе гэтых і іншых фактаў мусім сьцьвердзіць, што імкненьне нашае вёскі да культуры ў сваей беларускай вопратцы існуе вялікае.

Нас паведамляюць, што пружанскія ўлады пайшлі ўсьлед за маладзечанскімі і таксама забаранілі гандляром прадаваць беларускія календары ў горадзе Пружане і ваколічных вёсках і мястэчках. Прадаўцы адсылаюць календары назад у Вільню.

### БЕЛАРУСАВЕДА ПРЫ УСБ.

Апроч тых лектараў, аб якіх мы ўспомнілі у папярэднім нумары „Б. Фр.", лекцыі яшчэ чытаюць: Т. Трафімучанка — аб фізычнай геаграфіі Беларусі і В. Тумаш аб эканамічнай геаграфіі Беларусі.

### З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ

„Хр. Думка" (20.І) закранае важную для беларусаў галіну гандлю і промыслу. „Уласная эканоміка, уласны матар'яльны дабрабыт — гэта падстава правільнага нацыянальнага разьвіцьця народу" — кажа „Хр. Думка". Зусім справядліва. Мы справу бел. гандлю і промыслу высьвятлялі ў „Бел. Фр." (15.І), дык над ёю затрымлівацца ня будзем. Адзначым толькі, што ў „Хр. Д." падыход іншы, чым у нас.

„Шлях М." (25.І) адзначае вялікую важнасьць кніжак і прыватных бібліятэкаў на сяле. Многа бел. бібліятэкаў існавала пры гуртках розных бел. арганізацыяў, але яны былі зьліквідаваны разам з гэтымі арганізацыямі. А добрая бібліятэка, збор рознаякіх скамплектаваных кніжак, ёсьць, можна сказаць, крыніцай усебаковай веды, каторую могуць чэрпаць усе, хто толькі мае да гэтага ахвоту. Характар бібліятэкі павінен вызначацца беларускасьцю. Праз такую бібліятэку чытач можа і павінен пазнаць сваю краіну, яе мінуўшчыну, прастор, насельніцтва, слаўных змагароў, шляхі, якімі людзі імкнуліся паляпшаць жыцьцё.

„Хр. Думка" (1.ІІ) і „Шлях М." (5.ІІ) з нагоды „Тыдня цьвярозасьці" зварочваюць вялікую ўвагу на змаганьне з п'янствам, якое так пашырана па нашых вёсках, мястэчках і гарадох. Алькаголь руйнуе матар'яльны дабрабыт чалавека; шкодзіць ягонаму духоваму, моральнаму і культурнаму разьвіцьцю; прыводзіць да зладзейства, разбою, а нават часам і забойства; нішчыць фізычнае здароўе, дзеючы вельмі ад'ёмна на жалудак, ныркі, печань, сэрца, кроў, нэрвы; ад п'янства і алькаголю многа церпіць сямейнае жыцьцё і нацыянальная справа, бо ў сям'і п'яніцы вечная калатня, звадкі, бойкі і цемната, а пра беларускую справу ня чуваць.

Ня маючы магчымасьці змагацца з алькаголем шляхам арганізацыйным (незацьверджаньне Бел. Т-ва Цьвярозасьці), беларусы павінны гэта рабіць кожны паасобку,

(Далей на адвароце).

**Недакладнасьці ці злая воля?** Пані Ромэр, даючы ў „Кур. Віленскім" рэцэнзію кнігі Хв. Ільляшэвіча „Друкарня дому Мамонічаў у Вільні", зрабіла дзьве недакладнасьці. Кажа, што ў Менску выйшла ў 1926 г. кніга „400 гадоў друкарства на Беларусі" **парасейску**, а тымчасам усім ведама, што гэта кніга выйшла **пабеларуску**. Далей п. Р. кажа, што ў Польшчы ў той час яшчэ не пачалося паленьне **расейскіх** друкаў. Адкуль маглі быць тады (1575—1622) расейскія друкі, калі гэтыя друкі зьяўляюцца шмат пазьней, бо ад часоў Ламаносава? У той час былі друкі або царкоўна - славянскія, або беларускія.

**Пакрыўджаньне.** Ня гледзячы на тое, што ўкладаны на нашых землях грош, як гэта сьцьвердзіў віцэпрэм'ер Квяткоўскі, прыносіць шмат большую карысьць чымся ў іншых частках Польшчы, пры прызнаваньні будаўляных крэдытаў, за прыкладам папярэдніх гадоў, патрактаваны яны асталіся горай за іншыя часткі Польшчы. Вільня, напрыклад, атрымае на будаўляныя мэты 300 тысяч зл., тады калі Львоў 1 мільён, Кракаў 850 тысяч, а ня большае ад нашай Ашмяны Кросно 250 тысяч зал. Іншыя нашыя гарады знаходзяцца ў параўнаньні з гарадамі цэнтральнае Польшчы яшчэ ў горшай сытуацыі чымся Вільня. А тымчасам... лес наш плыве заграніцу, прыносячы дзяржаве мільёны. Як паведамляюць газэты („Кур. Віл. 29.І.39) надовячы Польшч прадала Клайпэдзкаму Сындыкату 77.000 куб. мэтр. лесу, што мае станавіць першую рату прадбачаных гандлёваю ўмоваю эканамічных транзакцыяў між Польшчай і Літвою.

Як назваць падобную гаспадарчую палітыку адносна нашых зямель?

### ВЫСЯЛЕНЬНЕ.

Пастановай адміністрацыйных уладаў з дня 11.ІІ сёл. выселены із Вільні два ўкраінскія студэнты: Уладзімер Гуцуляк — старшыня Кружка Укр. Студэнтаў і Тарас Гуцалюк.

беларускай праблемы, які намагаўся стварыць беларускую рэспубліку праз уцягненьне ў яе межы Латвіі, Літвы і значнай часьці нашых земляў, якія ляжаць каля ўсходняй граніцы. Як відаць, некаторыя імпэрыялізмы ўзьнімаюць некаторыя азначаныя пляны дзеля апраўданьня сваей экспансіі. Кожны з гэтых імпэрыялізмаў, якія ідуць на заваёву, заўсёды стараецца некага вызваляць.

„Другая сваяцкая група народаў, эстонска-фінская, мела-б у супрацоўніцтве з літоўска-латыскай адкінуць Расею ад балтыцкіх узьбярэжжаў і адапхнуць яе ўглыб контынэнту.

„Трудна ў гэтай хвіліне паважна гаварыць аб літоўска-латыскім імпэрыялізьме. Трудна паважна затрымлівацца над магчымасьцяй крыжовага паходу, узьнятага балтыцкімі дзяржавамі проціў Расеі. Справа аднак будзе выглядаць інакш, калі возьмем пад увагу з аднаго боку пляны вялікага нямецкага паходу на ўсход, а з другога — натугі заходніх дзяржаў, заінтэрасаваных у аслабленьні нямецкай пруткасьці.

„Нямецкі націск уздоўж паўночнага шляху не распачынаецца ад „Обэросту" з часоў сусьветнай вайны. Не праявіўся ён такжа ў тварэньні Літвы, як дзяржавы, падлеглай Бэрліну. Гэты нямецкі паход гэным паўночным шляхам трывае гэтак даўно, як даўно існуе польская дзяржава. Ад найдаўнейшых гадоў нашай гісторыі, аж па сяньняшні дзень, існуе нямецкі напор на гэтай дарозе, узмагаецца або ападае. Ў апошнім часе на працягу дваццаці гадоў мы мелі нявраз магчымасьць спасьцераганьня гэтага напору каля нашых паўночных граніц.

„Нашае ваеннае становішча з Літвою, трываючае дваццаць гадоў і закончанае нядаўна навязаньнем дыпляматычных зносін, мела сваё жарало ня толькі ў Коўне, але барджджэй у тых рознаякіх інтарэсах, якія там зыходзяцца і для якіх паўночны шлях ёсьць козырам першараднай важнасьці ў палітычнай ігры.

„Ясная рэч, што нашае вялікадзяржаўніцкае становішча, што нашыя прыязныя гутаркі з Коўняй і добрыя палітычныя адносіны з балтыцкімі дзяржававі ёсьць і будуць сольлю ў воку тым, для каторых Польшч ёсьць важнай перашкодай у рэалізацыі імпэрыялістычных мэтаў. З гэтай прычыны ўмеру таго, як узмацоўваліся нашыя сілы, умеру таго, як угрунтоўвалася нашая магутнасьць, будуць узрастаць натугі, якія будуць старацца нас аслабіць і паваліць.

„Ад поўдня і паўднёвага ўсходу, ад поўначы і паўночнага ўсходу выцягваюцца прагавітыя і праступныя рукі, якія стараюцца ўзьняць муць, праліцьцё крыві і пажар. Гэтыя цэнтры варожай для нас прапаганды стараюцца парушыць слаба азначаныя і ўсьведомленыя этнічныя групы проціў нас, стараюцца выкарыстаць малыя амбіцыі людзей, гатовых дзеля кар'еры праліць мора крыві.

„У гэтай сытуацыі мусіць выйсьці з нашага боку натуга, апёртая на тыя дзейнікі, якія фармавалі нашую місію на ўсходзе і на тыя ідэалы, якія з Польшчы тварылі прыцягаючы дзейнік для слабых пляменаў, а з яе самое магутную дзяржаву і цьвярдыню культуры, якая пасьпяхова змагаецца з барбарствам, што сілаю накідае сваю ўладу іншым".

* * *

Гэтак піша ІКЦ аб тых плянах, аб якіх мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары „Бел. Фронту" у артыкуле „Паміж Усходам і Захадам", апіраючыся на літоўскай прэсе. Передрукавалі мы гэты артыкул ІКЦ бадай цалком, прапускаючы толькі падчыркненьні, якіх у ІКЦ вельмі многа.

Наколькі гэтыя „таёмныя весьці і шэпты" апіраюцца на сапраўднасьці, згадаць трудна; урэшце ІКЦ ведамы з таго, што падае розныя сэнсацыйныя, а часам зусім фантастычныя весьці, але з другога боку, падаваньне гэтакіх вестак мае нейкія мэты. Дык якія мэты меў ІКЦ? Настрашыць Латвію? Выклікаць рэакцыю проціў беларусаў? Мусім тут адзначыць, што беларусы ў Латвіі нічога аб гэтых плянах ня ведаюць.

**Р.**

# На міжнародным грунце

### АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Цэнтр сусьветнай палітыкі ў першай палавіне лютага, пасьля прамовы Гітлера, выразна перасунуўся з Усходу на Захад і там цяпер адбываецца дыпляматычная ігра паміж Італіяй і Нямеччынай з аднаго боку, а Францыяй і Англіяй — з другога. У гэту ігру былі ўцягнуты і Злуч. Штаты Паўночнай Амэрыкі, прэзыдэнт каторых, Рузвэльт, стаў па старане Англіі і Францыі. На Блізкім Усходзе паспакайнела, ужо не гаворыцца аб магчымасьці вайны „на вясну“, а быў падпісаны нават гандлёвы дагавор паміж „сьмяротнымі ворагамі“: Італіяй і Саветамі і мае быць падпісаны такі-ж дагавор паміж Нямеччынай і Саветамі. Цяпер на Блізкім Усходзе ходзяць толькі „таёмныя весьці і шэпты“, аб якіх пішам на іншым месцы. Затое на Далёкім Усходзе падзеі разьвіваюцца яўна і бяз шэптаў: там Японія заняла вялікую кітайскую выспу Гайнан (2 мільёны насельніцтва), якая мае важнае стратэгічнае значэньне, бо ляжыць блізка францускага Індакітаю і блізка англійскіх гандлёвых шляхоў. З гэтага відаць, што Японія, карыстаючыся тым, што Англія і Францыя зьвязаны ў Эўропе, шторазь мацней наступае ім на пяты ў Азіі. У Гішпаніі паўночны (каталёнскі) фронт зьліквідаваны цалком і паўстанцы дайшлі да франц. граніцы на ўсім яе працягу, а рэспубліканцы знайшлі прыпынак на франц. тэрыторыі, дзе іх разаружылі.

Апроч гэтых палітычных фактаў, трэба яшчэ адзначыць факт іншага характару, іменна **сьмерць Рымскага Папы Пія XI.** Выбары новага Папы, якія будуць мець ня толькі рэлігійнае, але і палітычнае значэньне, адбудуцца ў пачатку сакавіка.

### НА ЗАХАДЗЕ.

Пасьля прамовы Гітлера на Захадзе ажывілася дыпляматычная ігра, у якую была ўцягнута і Амэрыка. Прэзыдэнт Рузвэльт, прыймаючы вайсковую камісію амэрыканскага сэнату, заявіў, што Злуч. Штаты памагаюць Францыі, прадаючы ёй ў вялікай колькасьці самалёты новага тыпу. Калі Рузвэльта спыталі аб прычынах гэтай помачы, ён заявіў, што граніцы Злуч. Штатаў знаходзяцца ў Францыі... Гэты сказ выклікаў вялікую сэнсацыю на ўсім сьвеце, а ў Італіі і Нямеччыне цэлую буру. Там зразумелі, што Амэрыка адказваецца ад нэўтральнасьці і становіцца яўна ў радох „дэмакратычнага“ блёку. Але зараз на другі дзень Рузвэльт склікаў прэсавую канфэрэнцыю, на якой заявіў, што слоў аб граніцах Амэрыкі ў Францыі ён не гаварыў, а іх выдумалі „нясумленныя людзі“. Што датыча самалётаў, Рузвэльт не сказаў нічога. Наагул пануе пракананьне, што ў выпадку ваеннага канфлікту на Захадзе, Амэрыка стане па старане Англіі і Францыі. Ужо гэты адзін факт гаворыць аб тым, што вайны на захадзе ня будзе, а справы калёніяў будуць вырашаны нейкім іншым спосабам, а не вайною.

Варта яшчэ адзначыць адзін факт: пасьля заявы Гітлера, што на выпадак вайны Нямеччына стане па старане Італіі, Чэмбэрлен афіцыяльна заявіў, што Англія ў такім выпадку стане па старане Францыі.., Гэтыя дзьве заявы сьведчаць аб існаваньні двух вайсковых саюзаў: нямецка-італьянскага і англійска-францускага. Да першага хінецца Японія, а да другога Злуч. Штаты. Значыць, маем **два вялізарныя трыкутнікі ў сусьветным маштабе.** Сілы іх з пункту гледжаньня людзкога матар'ялу і тэхнікі бадай што роўныя, але з пункту гледжаньня матар'яльных спосабаў і сыравіны сілы другога блёку большыя. Але фаш. блёк імкнецца да таго, каб выраўняць гэтыя сілы праз далучэньне да свайго блёку Гішпаніі і Кітаю. Дык каля гэтых двух краёў адбываецца цяпер глыбокая дыплёматычная ігра.

У Гішпаніі, пасьля перамогі ген. Франко, ня толькі Англія, але і Францыя шукае згоды з паўстанцамі. Францускі дэлегат, сэн. Бэрар, езьдзіў у Бургос на перагаворы з ген. Франко. Якія рэзультаты гэтых перагавораў — няведама. Але разыйшліся чуткі, што Англія з Францыяй запрапанавалі генэралу Франко ня толькі прызнаньне ягонага ўраду, але і пазыку ў суме 100 мільёнаў даляраў, затым, каб ён мог разьлічыцца з Італіяй і Нямеччынай за іх помач і гэтым разьвязаць сабе рукі... Што зробіць ген. Франко, згадаць трудна, але трэба прызнаць, што спакушэньне для яго вялікае, бо для Гішпаніі якраз патрэбны цяпер капіталы на адбудову краіны, зьнішчанай вайною, а Італія і Ням. гэтых капіталаў ня маюць.

Гэтакія крокі Англіі і Францыі выклікалі цэлую буру ў Італіі і яе прэса пачала пісаць што італьянскія аддзелы толькі тады будуць адкліканы з Гішпаніі, калі будуць споўнены наступныя варункі: 1) поўная дэмобілізацыя рэсп. аддзелаў, якія перайшлі ў Францыю, 2) агранічэньне дзейнасьці рэсп. павадыроў, якія знайшлі прыпынак у Францыі, 3) капітуляцыя астаткаў рэсп. арміі каля Мадрыту і Валенцыі, 4) зварот вывезенага ў Францыю золата, прадметаў мастацтва і іншага дабра. Як бачым, варункі даволі цяжкія. Відаць, што італьян. аддзелы так скора выяжджаць з Гішпаніі ня зьбіраюцца.

Пасьля заўладаньня ўсей Каталёніяй, паўстанцы занялі выспу Мінорку, якая ляжыць на важных стратэг. і гандлёвых франц. дарогах з Францыі ў Альжыр, Туніс і г. д. Заняцьце гэтай выспы можна параўняць з заняцьцем японцамі выспы Гайнан.

Ген. Франко цяпер гатовіцца да паходу на Мадрыт і Валенцыю, якія на капітуляцыю ня ідуць і быццам хочуць змагацца да канца. Але ў выпадку прызнаньня ўраду ген. Франко Англіяй і Францыяй, астаткі рэспубліканскай арміі будуць зьліквідаваны вельмі скора. Паводле апошніх вестак, Гітлер і Муссоліні зьвярнуліся да ген. Франко з жаданьнем выясьненьняў у справе ягоных перагавораў з Англіяй і Францыяй. Ген. Франко выясьненьні прыслаў, але якога зьместу — дакладна ня ведама.

### ГАНДЛЁВЫЯ ДАГАВОРЫ.

Вялікую сэнсацыю ў палітычным сьвеце выклікала афіцыяльнае паведамленьне аб падпісаньні гандлёвага дагавору паміж Італіяй і Саветамі (7. II.). Паводле—гэтага дагавору Саветы будуць дастаўляць Італіі сыравіну, галоўна нафту і жал. руду, а Італія Саветам — фабрычныя вырабы. Гандлёвы абарот мае дахадзіць да вялікай сумы — мільярда ліраў. Прэса справядліва адцэміла, што пры помачы савецкай нафты Італія можа цяпер біць ня толькі гішпанскіх рэспубліканцаў, так як у сваім часе біла абісынцаў, але і французаў, савецкіх саюьнікаў... Прадаючы для італьянскіх змотарызаваных дывізіяў нафту, Саветы аднačасна заступаюцца за пакрыўджаныя народы... Ходзяць чуткі, што падобны дагавор мае быць такжа падпісаны паміж Саветамі і Нямеччынай.

Чаму Нямеччына шукае нэўтральнасьці на Усходзе, мы ўжо пісалі, але чаму Саветы ідуць на такія камбінацыі? Справа ў тым, што і для Саветаў патрэбны спакой на іх заходняй граніцы, бо на Далёкім Усходзе яны будуць мець вялікія клопаты з Японіяй за права лоўлі рыбы каля берагоў Камчаткі. Саветы вызначылі на 15. III. сёлета публічныя таргі, на якіх маюць аддаць права на лоўлю рыбы таму, хто болей заплаціць. Японцы заявілі, што яны на ніякія таргі не паедуць, а ўсё роўна будуць лавіць рыбу, нават пад абаронай сваіх ваенных караблёў. З гэтай прычыны савецка-японскія адносіны ізноў напружыніліся і Саветы, карыстаючыся з спакою на сваей Зах. граніцы, пачалі трывожыць японцаў, пераходзячы па лёдзе Амур. Магчымы там новы Чанг-Ку-Фэнг. Цяпер Саветы абвяшчаюць праз радыё ўсяму сьвету, што галоўным іх ворагам зьяўляецца Японія!

Зьвярнуў увагу паліт. кругоў факт парваньня Саветамі дыплям. зносін з Вугрыяй, на тэй падставе, што Вугрыя далучылася да антыкамуністычнага пакту. Пытаюцца ўсе, чаму гэта з Італіяй і Нямеччынай, галоўнымі стаўпамі гэнага пакту, Саветы падпісваюць гандлёвыя дагаворы, а з малой Вугрыяй парываюць дыпл. зносіны? Дзе тут сэнс?

Аднак у гэтай тактыцы ёсьць нейкі сэнс. Справа ў тым, што **малая** Вугрыя пазваляе сабе на такія рэчы, на якія пазваляюць сабе вялікія дзяржавы! А прыгэтым усьлед за Вугрыяй маглі-б пайсьці Чэхаславаччына, Югаславія, Баўгарыя, Румынія — дык гэта трэба спыніць. Апроч гэтага Саветы заявілі, што Вугрыя, далучаючыся да антыкам. пакту, зрабіла гэта пад націскам, значыць, ня ёсьць самастойнай дзяржавай... А калі не самастойнай, дык і савецк. прадстаўніцтва ў Будапэшце лішняе, бо яно можа сядзець у Рыме, або ў Берліне... Як бачым, Саветы, рвучы дыплям. зносіны з Вугрыяй, хацелі яе панізіць.

---

накіроўваючы свае натугі ў тым кірунку, каб перастаць піць і курыць самым і прыцягнуць да гэтай ідэйнай працы і іншых, маючы на мэце моральнае і матар'яльнае дабро Беларускага народу.

З многіх старон даходзяць весьці, што беларуская болей культурная і паступовая моладзь кідае піць гарэлку і курыць тутун. І гэта робіць салідарна і масава. **Слава такой моладзі!**

### БЕЛАРУСЫ НА ЧУЖЫНЕ.

У **Францыі** беларускае нацыянальнае жыцьцё расьце, захапляючы шырокія работніцкія масы тамашняй эміграцыі.

На нацыянальныя мэты ў Францыі, так як у Чэхаславаччыне, спасьцерагаецца вялікая ахвярнасьць. Даведваемся, што ў мінулым годзе ў Парыжы на агульнай зборцы работнікаў Парыскае акругі прысутныя пастанавілі аблажыцца на куплю машыны да пісаньня і друкарскіх прыладаў падаткам у суме аднаднёвага свайго заработку. Безработныя ахвяравалі аднаднёвую сваю дапамогу, прычым заявілі, што дзень узносу падатку аб'яўляюць днём посту на сваю беларускую справу. Прэзыдыя Хаўрусу Бел. Работнікаў у Францыі пастанавіла вясьці рэестрацыю тых, хто падасьць сваё забавязаньне, фармулуючы яго: „Пашчу адзін дзень у месяц, а грошы аддаю на беларускія справы“... (далейшыя словы дзеля ведамых прычын прапускаем—рэд.). Разыйшліся сябры з вялікім духова-моральным пад'ёмам і вераю ў перамогу вялікай беларускай ідэі... Настрой сходкі выявіў магутны нацыянальны ўздым у беларускіх працоўных Парыскае акругі.

Больш інфармацыйнага матар'ялу з Францыі мы зьмесьцім у наступным нумары „Б. Фронту“. Цяпер толькі адзначым, што Прэзыдыя Хаўрусу Бел. Работнікаў у Францыі вельмі добра робіць, што запісвае тых беларускіх работнікаў, якія дзень свайго посту ахвяроўваюць на беларускую справу. Імёны іх запішуцца залатымі літарамі ў кнізе Адраджэньня Беларускага народу! Іх трэба паставіць за прыклад беларусам у Краі!

З **Канады** прыслалі нам адозву, пад якой маюць падпісвацца жывучыя ў Канадзе беларусы, эмігранты з нашага краю, якія пратэстуюць проціў адносін польскага ўраду да беларусаў. У адозве між іншым сказана: „Беларускі народ жадае сваіх нацыянальных правоў і дэмакратычных свабодаў у граніцах Польшчы: абясьпечаньня законам беларускага школьніцтва, свабоды слова і друку, свабоды для паступовых палітычных, культурна-прасьветных і каапэратыўных арганізацыяў, свабоды праваслаўнага веравызнаньня, свабодных выбараў у мясцовыя самаўрадавыя органы, у сэнат і сойм, асвабаджэньня палітычных вязьняў і зачыненьня канцэнтрацыйнага лагеру ў Бярозе Картускай — гэтага ўзору канц. лагераў германскага фашызму“.

Адозва выдана ад імя РРФК (Русские Рабоче-Фермерские Клубы), аб каторых мы ўжо пісалі. З адозвы можна адразу зрабіць вывад, хто ёсьць яе інспіратарам: там гаворыцца толькі аб германскіх канц-лагерах, але аб Салоўках нічога. На наш пагляд, беларусы не павінны дзяржацца ані савецкае, ані германскае палітычнае ідэолёгіі, але свае беларускае і крытыкаваць ня толькі германскія канц-лагеры, дзе пакуль-што з беларусаў ніхто не сядзіць, але і бальшавіцкія, дзе беларусаў поўна. Адозва цікава тым, што выяўляе становішча камуністаў адносна беларусаў у Польшчы. Гэтае становішча, як бачым, зусім лёяльнае, а нават жадае таго, што мы ўжо ў Польшчы маем, забясьпечанае законам...

—•—

**ВЫПІСВАЙЦЕ і ПАШЫРАЙЦЕ „БЕЛАРУСКІ ФРОНТ“.**

## НАША ПОШТА

*Ул. П. у Л.* Вашы тры пісьмы атрымалі, выкарыстаем. Чаму Вы не прыслалі нам гэтых матар'ялаў ў вадным пісьме, а што асталосяб, далічыліб да складкі? Паміма ўсяго мы спадзяёмся, што Вы нам складку прышлецё.

*С. К. у Б.* Вершаў пакуль што друкаваць ня можам, бо наша газэта перш за ўсё палітычная, а цяпер столькі палітычнага жывога матар'ялу, што ледзь яго можам зьмясьціць у нашай газэце.

*П. Ц. у П.* Кяшанковага беларускага календара няма, дзеля гэтага ня можам яго выслаць.

*В. Ж. у О. П.* Выбачайце, гэта праз недагляд ня выслалі Вам газэты. Цяпер высылаем усе чатыры нумары ад Новага Году. Грошы ад Вас атрымалі ў канцы сьнежня. Пашырайце наш часапіс паміж сваімі знаёмымі.

*К. С. у Б.* Вашы матар'ялы атрымалі. Сапраўды Вы пішаце вельмі востра! Дзякуем за пажаданьні і пахвалу. Стараемся сколькі можам, каб газэту паставіць на належнай вышыні. Прысылайце нам фактычны інфармацыйны матар'ял. Пробныя нумары на пададзеныя адрасы пастараемся выслаць, асабліва на вёску, бо ў горадзе Вы самі можаце зазнаёміць з нашай газэтай і здабыць для нас новых падпішчыкаў.

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski.

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.